ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СЕРАДА, 12 ліпеня 2000г.

№ 53 (8122)

Раённая грамадска-палітычная газета

Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР

Цана 24 руб.

## ПАД ЖОРСТКІ КАНТРОЛЬ

Жорсткі кантроль за пагашэннем даўгоў і бягучымі плацяжамі за электраэнергію ўстаноўлены ў гаспадарках рэспублікі з 1 ліпеня. Своечасовасць разлікаў дае гаспадаркам нележную адтэрміноўку ў пагашэнні запазычанасці за мінулыя гады без налічэння пені. Акрамя таго, калгасам і саўгасам дазволілі накіраваць 10 працэнтаў сродкаў з фонду падтрымкі сельгасвытворцаў і аграрнай навукі на пагашэнне даўгоў за электраэнергію.

## УВЕСЬ КАМПЛЕКТ

Да першага верасня ў партфелі школьніка будзе ўвесь камплект падручнікаў. Цяпер са 107 неабходных назваў вучэбнай літаратуры выдадзена ўжо 98. Вырашаецца задача забяспечыць падрыхтоўчыя класы букварамі, а таксама выпусціць масавы тыраж падручнікаў для другога класа па новай праграме 12-гадовага навучання. Упершыню ў гэтым годзе ўбачыць свет буквар для сляпых дзяцей.

**БелТА.**



## * Чалавек і яго справа

***У Варвары Сідараўны Рудакоўскай, якую вы бачыце на здымку нашага фотакарэспандэнта Івана Лукановіча, вельмі пачэсная і патрэбная прафесія, яна — майстар-пекар па вытворчасці хлебабулачных вырабаў. Каля дваццаці пяці гадоў працуе на камбінаце кааператыўнай прамысловасці. Добрасумленна ставіцца да выканання сваіх абавязкаў, ды як жа інакш — справу ж мае з яго Вялікасцю Хлебам. За доўгія гады работы набыты прафесійнае майстэрства, вопыт. Партрэт Варвары Сідараўны занесены на Дошку гонару райспажыўтаварыства.***

***А яшчэ яе ўсе ведаюць як выдатную гаспадыню ў сваім доме, клапатлівую маці. Яе дачка закончыла Бабруйскі хіміка-тэхналагічны тэхнікум, там жа займаецца сын. У дзяцей усё ладзіцца — і маці задаволена.***

## ПРЫЁМ ГРАМАДЗЯН

19 ліпеня з 10 гадзін у Магілёўскім гарвыканкаме згодна з графікам, зацверджаным Саветам Міністраў РБ, будзе весціся прыём грамадзян вобласці міністрам па надзвычайных сітуацыях В.П.Астапавым.

Праводзіцца папярэдні запіс. Звяртацца ў рабочыя дні на адрас: г.Магілёў, Дом Саветаў, к.113 або па тэлефонах: 32-67-21, 32-67-43, 31-05-24 у абласным упраўленні Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.

**Актуальна**

## ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ Ў ЛЕС...

У выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС у навакольнае асяроддзе была выкінута вялікая колькасць радыёнуклідаў, ядзерных асколкаў і прадуктаў іх распаду. Некаторая частка выпала на тэрыторыю Кіраўскага раёна, у выніку чаго сталі забруджанымі лесанасаджэнні Чыгірынскага лясніцтва і часткова за рэчкай Вепрынкай — Грыбавецкага. Асноўная колькасць радыёцэзія, асеўшая ў лясах, у цяперашні час знаходзіцца ў лясной падсцілцы і ў верхнім пяцісантыметровым слоі глебы. Заходзячы з гэтага, моцнымі накапляльнікамі радыёнуклідаў з'яўляюцца дары лесу — ягады і грыбы.

Каб паменшыць дозу ўнутранага апраменьвання чалавека ў выніку ўжывання ягад і грыбоў, трэба абавязкова прытрымлівацца некаторых рэкамендацый.

Вядома, што найвышэйшай здольнасцю накапліваць радыёцэзій валодаюць буякі, журавіны, брусніцы, чарніцы. Некалькі менш — суніцы, маліны, ажына. Менш усяго забруджваюцца ягады рабіны і каліны.

Ягады, якія растуць у вільготных умовах, накапліваюць цэзій-137 больш тых, якія знаходзяцца ў сухіх месцах. Сабраныя ягады перад выкарыстаннем неабходна некалькі разоў прамыць у праточнай вадзе.

Не рэкамендуецца збіраць польскія грыбы, свінухі, маслякі, махавікі, таму што пры забруджванні глебаў дозамі радыяцыі, блізкімі да фонавага значэння (0,1-0,2 К/км$^2$), утрыманне цэзія-137 можа перавышаць у іх дапушчальны ўзровень.

Лісічкі, радоўкі, белыя грыбы, падбярозавікі, падасінавікі, апенькі накапліваюць радыёцэзій некалькі менш.

Зніжэння ўтрымання радыёцэзія ў грыбах можна дасягнуць пры адварванні іх (на працягу 15-60 мінут) у салёнай вадзе, пры гэтым праз кожныя 15 мінут адвар зліваецца.

Ва ўсіх выпадках неабходна рабіць праверку сабраных дароў лесу ў лабараторыях радыяцыйнага кантролю.

Пункт па радыяцыйнаму кантролю будзе адкрыты ў Гарадзецкім лясніцтве, дзе вам хутка і бясплатна правядуць праверку прадуктаў на ўтрыманне ў іх радыёцэзія.

І, карыстаючыся выпадкам, хачу звярнуцца да ўсіх жыхароў і гасцей Кіраўскага раёна з просьбай абавязкова выконваць у лесе правілы пажарнай бяспекі: не кідаць непатушаныя запалкі, акуркі, не распальваць вогнішчы, бо лясныя пажары ў зонах радыяцыйнага забруджвання, акрамя ўсяго, прыводзяць да разносу радыёактыўных рэчываў, паўторнага забруджвання тэрыторыі.

**Уладзімір САЛАМАХА,**
**інжынер-радыёлаг**
**Бабруйскага**
**доследнага лясгаса.**

*Ураджай-2000*

## УБОРКА ЗБОЖЖАВЫХ — НЕ ЗА ГАРАМІ

На ацэнках спецыялістаў, уборка азімых збожжавых сёлета пачнецца значна раней звычайнага. Таму часу засталося зусім мала, каб закончыць падрыхтоўку да гэтай важнай справы. Трэба адразу ж заўважыць, што вынікі ўзаемаправерак, праведзеныя 5-6 ліпеня бягучага года, паказалі — каб прывесці ў поўную гатоўнасць камбайны, сушыльную гаспадарку, неабходна выканаць вялікі аб'ём работ.

Менавіта аб гэтым і іншых праблемах ішла дзелавая размова ў мінулую пятніцу на нарадзе, якая адбылася на базе райаграпрамтэхзабеспячэння. У ёй прынялі ўдзел кіраўнікі і галоўныя інжынеры гаспадарак, кіраўнікі абслугоўваючых прадпрыемстваў і арганізацый.

На пачатку работы прысутным быў паказаны камбайн, які прайшоў рамонт у райаграпрамтэхзабеспячэнні і найлепшым чынам падрыхтаваны да ўборкі ўраджаю: усе шчыліны і адтуліны загерметызаваны, адрэгуляваны шнэкі, што значна змяншае страты зерня. Тлумачэнні даваў намеснік начальніка райсельгасхарчу А.А.Падаляк.

Нарада працягвалася ў зале пасяджэнняў райаграпрамтэхзабеспячэння. Аналіз спраў зрабілі першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік упраўлення райсельгасхарчу С.У. Свірко, першы намеснік і намеснік начальніка райсельгасхарчу М.Б.Пад'ялоўскі і А.А.Падаляк. Яны ж акрэслілі бліжэйшыя задачы працаўнікоў аграпрамысловага комплексу.

Як адзначалася, у раёне са 125 збожжаўборачных камбайнаў спраўныя 73, з іх 51 — "Доны". Толькі ў СКП "Чырвоны баец" амаль поўнасцю гатовыя да жніва. Не выклікае асаблівых трывог падрыхтоўка да важнага экзамена ў калгасах імя Дзяржынскага, "III з'езд Саветаў", імя Кірава, СКП "Ніва", саўгасе імя Кірава.

Выказвалася занепакоенасць станам спраў па падрыхтоўцы камбайнаў у калгасах імя Калініна, "Беларусь", дзе да жніва яшчэ не гатовы ніводны з наяўных. У калгасах імя Ільіча, "Радзіма", "Камуніст" спраўныя адпаведна 17, 20, 38 працэнтаў камбайнаў.

Пасля завяршэння леташняга жніва працаўнікам райаграпрамтэхзабеспячэння неабходна было паставіць на лінейку гатоўнасці 43 камбайны. Зараз тут на рамонце знаходзяцца 18 (10 "Донаў" і 8 "Ніў"), з іх 4 ужо амаль гатовыя да работы. Галоўны ўпор рамонтнікі робяць на якасць, таму нараканняў з боку хлебаробаў пакуль не маюць.

З шасці наяўных камбайнаў (2 "Доны" і 4 "Нівы") з калгаса імя Ільіча два знаходзяцца на рамонце ў райаграпрамтэхзабеспячэнні яшчэ з лютага. З-за адсутнасці сродкаў на запчасткі рамонтнікі не гарантуюць таго, што паставяць іх на лінейку гатоўнасці да пачатку ўборкі.

Важным звяном у зладжанай рабоце ўборачнага канвеера, як вядома, з'яўляецца сушыльная гаспадарка. І да прыёму новага ўраджаю яна павінна быць падрыхтавана ўжо зараз. Неабходна прадэзінфікаваць складскія памяшканні, давесці да ладу сушыльнае абсталяванне, падрамантаваць засекі. Не прыступалі да гэтай справы ў калгасе імя Ільіча, толькі распачалі работы ў калгасах "Радзіма", імя Дзяржынскага і некаторых іншых.

На нарадзе быў устаноўлены канчатковы тэрмін — 15 ліпеня, калі трэба быць поўнасцю гатовымі да жніва, бо безадказнасць, халатнасць дорага каштуюць.

Крытыка ў выступленні С.У.Свірко прагучала ў адрас кіраўніка калгаса імя Калініна В.С.Стэльмацкага, дзе пасля леташняй уборкі сланечніку ў боксах увесь час прастаялі забруджаныя камбайны. За іх пастаноўку на зімоўку механізатары атрымалі заработную плату, а вось спецыялісты не пракантралявалі стан камбайнаў. Было адзначана таксама, што гаспадарка невялікая, а фактаў безгаспадарчасці хапае. Так, няма варотаў на складзе мінеральных угнаенняў, антысанітарныя ўмовы на прахадной.

Звярталася ўвага і на неабходнасць распрацоўкі адзіных для ўсіх гаспадарак расцэнак па аплаце працы на жніве, якія абавязкова ўвязаць з якасцю ўборкі. Была пастаўлена таксама задача, каб усе камбайны сёлета прайшлі тэхабслугоўванне.

Зроблены акцэнт і на ўкамплектаванне кадрамі. Калі на жніво патрэбны людзі, неабходна падаваць заяўку ў райсельгасхарч. Не абыдуцца без дапамогі хлебаробы з калгаса імя Ільіча: экіпажы на камбайны тут не ўкамплектаваны. Плануюць за-дзейнічаць леснікоў, якія згодны працаваць на час уборкі на камбайнах. Але ж ці згадзіцца на такое кіраўніцтва лясніцтва?

Вырашана стварыць у раёне рэзерв паліва ў колькасці 80-100 тон, для чаго напрамую задзейнічаць сродкі з масла778робчага завода. Як адмоўнае, на нарадзе адзначалася, што ніводная гаспадарка не заключыла з заводам дагавор на закупку паліва за кошт здаваемага малака.

Былі закрануты таксама іншыя пытанні. У гаспадарках знізіліся тэмпы нарыхтоўкі кармоў. Па становішчу на 7 ліпеня па раёне на ўмоўную галаву жывёлы нарыхтавана па 4,2 цэнтнера кармавых адзінак. Каб папоўніць запасы кармоў, варта абкасіць усе збожжавыя палі. Тым самым паменшыцца паступленне ў бункер пустазелля.

Неаходна ўзяць пад строгі кантроль пасевы кукурузы, кармавых буракоў, падкарміць сенажаці пасля першага ўкосу, пашы. Адным словам, рабіць усё магчымае і немагчымае, каб грамадскаму статку не давялося галадаць.

Крытычная сітуацыя ў раёне складваецца і па абнаўленню насення. Так, азімае жыта ў калгасе "Радзіма" пасеяна насеннем 5 рэпрадукцыі, імя Калініна — 4; азімая пшаніца 4 рэпрадукцыі ў калгасах "III з'езд Саветаў", імя Калініна, імя Кірава, "Беларусь", "Радзіма", СЗАТ "Бераснёўскае".

Звернута ўвага прысутных і на разлікі з райаграпрамэнергамантажом за аказаныя паслугі. З-за несвоечасовасці паступлення сродкаў на разліковы рахунак арганізацыя не можа набыць запасныя часткі, паліва, не разлічылася з працуючымі па заработнай плаце за 4 месяцы. Для таго, каб нармальна працаваць, РАПЭМу неабходна кожны месяц 1,5 мільёна рублёў.

Хутка надыдзе сяўба азімых культур, а без унясення фосфарных угнаенняў у глебу нельга атрымаць жаданага ўраджаю. Ёсць гаспадаркі, (Жыліцкі сельгаскаледж, СЗАТ "Бераснёўскае", "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага, СКП "Чырвоны баец", "Камуніст") якія пакуль не забралі ў Бабруйску са склада 354 тоны ўгнаенняў: маяўляў, іх не задавальняюць умовы паставак. Хаця, як адзначалася на нарадзе, гаспадаркі Бабруйскага раёна згодныя іх забраць і на гэтых умовах.

Вынікі нарады падвёў старшыня райвыканкама А.С. Сцяпанчанка. Ён, у прыватнасці, адзначыў, што сёлетні ўраджай — гэта і дзяржпастаўкі, і фураж, і будучае насенне. А ў гэтым годзе на гаспадаркі Магілёўшчыны ўскладаюцца вялікія надзеі па атрыманню важкага ўраджаю. Таму на месцах трэба шукаць розныя варыянты, каб вырашчаны хлеб убраць своечасова і без страт.

**Таццяна БАРАДЗІНА.**

### ІНФАРМАЦЫЯ РАЙСЕЛЬГАСХАРЧУ аб ходзе нарыхтоўкі кармоў па становішчу на 11 ліпеня г.г. (у працэнтах да плана)

| Гаспадаркі | Нар.цнт. к.адз. на ўм. гал. жыв. | Нарыхт. сена | Нарыхт. сенажу |
|---|---|---|---|
| с-с імя Кірава | 8,6 | 68,3 | 56,9 |
| СКП «Чырвоны баец» | 8,4 | 133,3 | 149,4 |
| СКП «Ніва» | 7,4 | 107,6 | 87,9 |
| «Беларусь» | 5,5 | 24,1 | 96,6 |
| імя Кірава | 5,2 | 21,2 | 125,9 |
| імя Свярдлова | 4,1 | 29,9 | 43,1 |
| імя Калініна | 4,1 | 25,1 | 65,7 |
| «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага | 4,1 | 24,6 | 46,3 |
| «Шыннік» | 3,8 | 49,2 | 74,0 |
| імя Дзяржынскага | 3,7 | 45,4 | 40,3 |
| Жыліцкі сельгаскаледж | 3,5 | 31,3 | 22,2 |
| «Радзіма» | 3,2 | 45,2 | 21,9 |
| «Камуніст» | 2,6 | 31,8 | 34,6 |
| «III з'езд Саветаў» | 2,5 | 33,6 | 36,0 |
| СЗАТ «Бераснёўскае» | 2,1 | 20,0 | 23,3 |
| імя Чапаева | 1,8 | 6,9 | - |
| імя Ільіча | 1,0 | 15,4 | - |
| Усяго па раёне: | 4,6 | 37,5 | 51,3 |

Заўвага: у Жыліцкім сельгаскаледжы нарыхтавана 42,5 % сіласу, калгасах імя Чапаева — 24,5 %, імя Свярдлова — 24,4%.

Дні Саветаў

# "ВЁСКА МАЯ — ВЁСКА РОДНАЯ"



Старшыня Любоніцкага сельскага Савета В.А.Драчова.



Фаіна Навумаўна і Мікалай Іванавіч Салановічы.



Старшыня райсавета дэпутатаў В.В.Маркевіч.



Сямён Емяльянавіч Казека.

Удалося свята вёскі ў Кострычах, арганізатарам якога выступаў Любоніцкі сельскі Савет дэпутатаў. З песнямі, танцамі, жартамі, конкурсамі яно працягвалася больш трох гадзін. Дагледжаны дворык мясцовага сельскага клуба, упрыгожаны бярозкамі, у галінкі якіх, нібы ў дзявочыя косы, былі ўплецены рознакаляровыя стужкі, даўно не збіраў столькі людзей. Прыйшлі сюды старыя і малыя, прыехалі госці з Любоніч, Сяргеевіч, Уласавіч. Усіх гасцінныя гаспадары сустракалі хлебам-соллю.

Актыўнымі ўдзельнікамі мерапрыемства сталі самадзейныя артысты з Любоніч і Сяргеевіч. Шырока на свяце былі прадстаўлены экспанаты вясковых майстрых-рукадзельніц — вышыўкі, саматканыя настольніцы, пасцілкі і нават дываны. А загадчык Сяргеевіцкага сельскага клуба Наталля Апанасаўна Гарыст прывезла на выставу свае карціны. Яна, як і многія іншыя ўдзельніцы конкурса, была заахвочана каштоўным падарункам.

Прысутнічала на свяце дэлегацыя ад раёна, у якую ўваходзілі: старшыні сельскіх Саветаў дэпутатаў, некаторыя загадчыкі аддзелаў райвыканкама. Узначальваў дэлегацыю старшыня райсавета В.В.Маркевіч. Першым чынам госці пабывалі на Сяргеевіцкай жывёлагадоўчай ферме, гутарылі з калгаснікамі, адказвалі на іх пытанні.

Яшчэ адна сустрэча з мясцовымі жыхарамі адбылася ў Кострыцкім магазіне тавараў паўсядзённага попыту. Памяшканне магазіна адрамантавана, сродкі на рамонт выдзеліла райспажыўтаварыства. У наяўнасці шырокі выбар тавараў, якія акуратна выкладзены на паліцах. Чыста, утульна ў гандлёвай зале, а гаспадарыць тут вопытны работнік прылаўка, ветлівы і ўважлівы чалавек Марыя Аляксандраўна Дарошка.

Апошнім часам удалося "закрыць" вакансію на Кострыцкім ФАПе. Працуе тут вопытны медык Лідзія Васільеўна Трэгубава. Жанчына ўжо на заслужаным адпачынку, пераехала з мужам у Кострычы, дзе і купілі хату. Нядаўна жывуць сярод вяскоўцаў, а ўжо, як свае. Нягледзячы на цяжкасці з фінансаваннем, знайшліся сродкі ў бюджэце на рамонт ФАПа. Забяспечана лячэбная ўстанова і палівам на зіму.

Любоніцкі сельскі Савет дэпутатаў традыцыйна праводзіць конкурс на лепшую сядзібу, трымае на кантролі пытанні добраўпарадкавання. Трэба сказаць, што ў Кострычах шмат дыхтоўных дамоў, светлых, прасторных, пафарбаваных. І камісіі нялёгка было вызначыць пераможцу. Тым не менш першае месца камісія прысудзіла домаўладанню Мікалая Іванавіча і Фаіны Навумаўны Салановічаў. Гаспадары — пенсіянеры. Фаіна Навумаўна да выхаду на заслужаны адпачынак працавала даяркай на ферме, муж быў заняты на розных работах. І зараз на падвор'і Салановічаў ёсць карова, свінні, куры, конь. Мікалай Іванавіч да таго яшчэ ўзначальвае сельскі камітэт.

Домаўладанне Дзмітрыя Міксімавіча і Марыі Карпаўны Драздоў таксама прыцягвае ўвагу сваёй дагледжанасцю. А як чыста і ўтульна ў доме! Характэрна тое, што тут не знойдзеш ніводнай купленай пасцілкі ці настольніцы. Усё выткана, вышыта і пашыта рукамі Марыі Карпаўны. Домаўладанне Драздоў таксама як і Салановічаў удастоена звання "Домаўладанне ўзорнага парадку".

На імправізаванай сцэне каля мясцовага сельскага клуба тым часам пачалася літаратурна-музычная кампазіцыя "Вёска мая — вёска родная" з вершаваных радкоў, прысвечаных вёсцы. У радках гэтых удзячнасць за хлеб, за чыстую крынічную ваду, у іх прызнанне ў вернасці і благаславенне.

Гучыць Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь. Ганаровае права ўзняць сцяг прадастаўляецца старшыні сельскага Савета В.А.Драчовай, намесніку старшыні калгаса "Радзіма" Я.Я. Фралову і старэйшаму жыхару вёскі В.І.Казеку. В.А. Драчова павітала ўсіх, хто прыйшоў на свята, выказала ўдзячнасць жыхарам вёскі за іх працавітасць, руплівасць, за ўменне захаваць лепшае і перадаць гэтыя традыцыі наступным пакаленням.

Вядучыя ў сваім расказе вяртаюць усіх у далёкую мінуўшчыну, знаёмяць з гераічнымі старонкамі жыцця нашых продкаў. Але, нягледзячы на беднасць, на цяжкія ўмовы жыцця, людзі і тады спявалі. Адну з такіх песень "Ой, рана на Івана" і выканаў фальклорна-этнаграфічны калектыў "Спадчына" Любоніцкага СДК.

Лёс вёскі Кострычы ў многім падобны на лёс іншых вёсак раёна. На пачатку 30-х, напрыклад, пачалася калектывізацыя. У 1934 годзе тут арганізаваны першы калгас "Чырвоныя Кострычы". Сваімі ўспамінамі аб тых далёкіх гадах падзяліўся ветэран-хлебароб Павел Данілавіч Казека.

Трыццатыя гады характарызуюцца не толькі калектывізацыяй на вёсцы. У 30-я пачынаюцца страшныя рэпрэсіі, якія пракаціліся па краіне ад Буга да Курыл. Не абмінулі яны і Кострычы. На свяце называліся прозвішчы нявінна рэпрэсіраваных, а потым рэабілітаваных. Рэабілітаваных праз дзесяцігоддзі.

Вайна... Яна пачалася ў самым доўгім дні ў гаду, яна забрала столькі жыццяў, што жывым зараз не верыцца, што яны жывыя. Многія жыхары Кострыч прайшлі вогненнымі дарогамі Вялікай Айчыннай. На свяце названы прозвішчы ветэранаў, што і сёння ў страі. Гэта А.А.Казека, Г.Н.Казека, Л.П.Казека, П.Д.Казека, С.Е.Казека, І.А.Аўсянік, І.А.Бяржанін, Р.І.Галавач, В.І.Казека. Успомнілі, вядома, і пра загінуўшых. Іх многа. Іх дзесяткі. Толькі ў партызанах загінулі 47 чалавек, з якіх 13 жанчын. 40 жыхароў вёскі не вярнулася з франтоў. У асноўным гэта людзі трох прозвішчаў: Бяржанін, Дрозд, Казека — самых распаўсюджаных прозвішчаў у Кострычах тады і цяпер. Самым маладым з іх Аляксандру Платонавічу Казеку і Івану Ільічу Дразду было ўсяго па семнаццаць. Пахаваны кострыцкія сыны ў далёкіх Польшчы, Чэхіі, Германіі, Прыбалтыцы. 51 жыхар зажыва спалены ў агні фашыстамі ў чэрвені 1942 года. Не называліся прозвішчы ўсіх загінуўшых. Можа, і не трэба было гэтага рабіць. Карэнныя жахыры Кострыч, што прыйшлі на свята, помняць сваіх родзічаў, каго назаўсёды забрала вайна. Памяць загінуўшых ушанавана мінутай маўчання.

Выстаяла вёска, адбудавалася ў пасляваенныя гады. У 1953 годзе "Чырвоныя Кострычы" аб'ядналіся з іншымі дробнымі калгасамі і новая гаспадарка атрымала назву "Радзіма". Ад імя праўлення сённяшняй "Радзімы" ўсіх прысутных на свяце вітаў намеснік старшыні калгаса Яўген Ягоравіч Фралоў, які ў 80-я гады ўзначальваў гаспадарку.

Асноўным багаццем вёскі былі, ёсць і будуць яе людзі. Гэта іх рукамі вырошчваецца хлеб, гэта яны дабіваюцца важкіх прываг жывёлы, працуюць у полі, на ферме, у майстэрні. Вядучыя называлі дзесяткі імён палыводаў, жывёлаводаў, трактарыстаў, вадзіцеляў, будаўнікоў, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё гаспадаркі і многія з якіх носяць ганаровае званне "Заслужаны калгаснік".

Асабліва пранікнёна гаварылася аб Ганне Лявонаўне Бяржанінай, якая нарадзіла і выхавала 8 дзяцей. Людзям працы, маці-гераіні самадзейныя артысты дарылі песні, танцы.

Закончылася свята падвядзеннем вынікаў шматлікіх конкурсаў. Пераможцы з рук старшыні сельсавета атрымалі сувеніры.

Шчыра вітаў жыхароў вёскі старшыня райсавета дэпутатаў В.В.Маркевіч. Ён паабяцаў станоўча вырашыць усе пытанні, што паступілі ад вяскоўцаў у час сустрэчы.

**Пятро СУРЫНОВІЧ.**
**Фота аўтара.**



Наталля Апанасаўна Гарыст.



Марыя Карпаўна і Дзмітрый Максімавіч Драздзы.





Удзельнікі мастацкай самадзейнасці.

## * Людзі працоўнай вёскі



*Рэдка дзе сустрэнеш, каб брыгадзір паляводчай брыгады, апрача сваіх непасрэдных абавязкаў, паспяхова спраўляўся з абавязкамі механізатара. У саўгасе імя Кірава практыкуюць такое. Помніцца, брыгадзір Капусцінскай трактарнай брыгады Рыгор Маркелавіч Чэкулаеў спалучаў брыгадзірства з працай на трактары. А гавару ў прошлым часе таму, што Рыгор Маркелавіч гады тры-чатыры, як на пенсіі.*

*Васіль Фролавіч Стэльмакоў, якога вы бачыце на здымку, у саўгасе ўзначальвае вытворчы ўчастак "Камерава". Сваю працоўную дзейнасць у гаспадарцы пачынаў трактарыстам на энерганасычаным К-700 яшчэ ў 1982 годзе. Завочна скончыў Жыліцкі сельскагаспадарчы тэхнікум, дзе атрымаў прафесію агранома-арганізатара. Шаснаццаць гадоў таму яго прызначылі начальнікам вытворчага ўчастка, але не забралі і трактар. Так і па сённяшні дзень. Раніцай аддасць нарад — і за штурвал. Сёлетняй вясной, напрыклад, у счэпе з АКШ-7,2 рыхтаваў глебу пад яравую сяўбу. Перад касавіцай навешвае на трактар валакушу, якой сцягвае рулоны сена ў стагі. У жніво заняты на ўборцы саломы, сцірты якой даводзіцца траляваць зімой да фермаў. Вось так: у адной асобе брыгадзір і трактарыст.*

**Фота Пятра Сурыновіча.**

## Юрыдычная кансультацыя

# ЧЫМ АДРОЗНІВАЕЦЦА ЗАВЯШЧАННЕ АД ДАРЭННЯ

Зыходзячы з практыкі маёй работы натарыусам, пераканалася, што большасць грамадзян не разумеюць таго істотнага адрознення, якое ёсць паміж такімі натарыяльнымі дзеяннямі, як завяшчанне і дарэнне. Яны сапраўды маюць падобныя рысы, але нараджаюць розныя юрыдычныя вынікі, на якіх і хацелася б засяродзіць увагу.

**Завяшчанне.** Яно ўяўляе сабой распараджэнне грамадзяніна на выпадак сваёй смерці. Кола асоб, уключаемых у завяшчанне, дзеючым заканадаўствам не абмяжоўваецца. Гэта могуць быць блізкія родзічы, а таксама любыя іншыя асобы. Не абмяжоўваецца і колькасць людзей, на карысць якіх зроблена завяшчанне: адзін, два, дзесяць... Акрамя таго, на працягу жыцця грамадзянін мае права складаць колькі хоча завяшчанняў, а таксама ўносіць змяненні ці наогул адмаўляцца ад іх. Сапраўдным лічыцца тое завяшчанне, дата заключэння якога найбольш блізкая да даты смерці спадчынадаўцы.

Важным момантам з'яўляецца тое, што ў адрозненне ад дарэння маёмасці, спадчынадаўцу, для таго каб унесці змяненні ў складзены дакумент ці адмяніць папярэдняе завяшчанне, не трэба згода асобы, на карысць якой тое завяшчанне было складзена. Аднак, існуючае заканадаўства ўтрымлівае прававыя нормы, якія абараняюць правы непаўналетніх дзяцей спадчынадаўцы, яго непрацаздольных мужа ці жонкі, іншых утрыманцаў, бацькоў. Гэта, так званая, абавязковая доля, замацаваная арт. 1063, 1064 Грамадзянскага кодэксу РБ. Указаная катэгорыя асоб атрымае спадчыну, незалежна ад зместу завяшчання, і пазбавіць іх гэтага спадчынадаўца не мае права.

Завяшчанне мае патрэбу ў наступным афармленні: спадчыннікі, указаныя ў завяшчанні, павінны ў 6-месячны тэрмін звярнуцца ў натарыяльную кантору па месцы апошняга пастаяннага жыхарства спадчынадаўцы і падаць заяву аб уступленні ў законныя правы, сабраць шэраг іншых дакументаў.

З 1 ліпеня 1999 года ўступіў у сілу новы Грамадзянскі Кодэкс РБ, якім прадугледжаны новыя патрабаванні да засведчання завяшчання. Згодна яго распрацавана інструкцыя "Аб парадку сведчання завяшчанняў, прыняццю мер па ахове спадчыны і афармленню спадчынных правоў дзяржаўнымі натарыяльнымі канторамі", зацверджаная Указам Міністра юстыцыі 31 мая 1999 года. Яна замацавала існаванне новага інстытута сведкаў: для таго, каб засведчыць завяшчанне, неабходна волевыяўленне адной асобы (спадчынадаўцы) з дакументам, пацвярджаючым яго асобу (пашпарт), квітком аб аплаце дзяржпошліны ў размеры 50 працэнтаў мінімальнай заработнай платы, аплачанай у ААБ "Беларусбанк", а таксама прысутнасць сведкі. Гэта можа быць любы чалавек, незацікаўлены ў сутнасці заключаемай здзелкі. Не можа быць сведкай натарыус ці іншая асоба, якая сведчыць завяшчанне, асоба, на карысць якой складзена завяшчанне ці зроблена адмаўленне, муж ці жонка гэтай асобы, іх дзеці, бацькі, унукі, праўнукі, а таксама грамадзяне без поўнай дзеяздольнасці, непісьменныя, якія маюць судзімасць, якія не валодаюць у поўнай меры мовай (за выключэннем тых выпадкаў, калі натарыусам прымаецца закрытае завяшчанне).

Правa ўласнасці пераходзіць да спадчыннікаў па завяшчанню толькі пасля смерці спадчынадаўцы і атрымання імі ў дзяржаўнай натарыяльнай канторы па месцы апошняга пастаяннага пражывання памёршага, пасведчання аб праве на спадчыну па завяшчанню.

**Дарэнне.** Дагавор дарэння маёмасці з'яўляецца двухбаковай здзелкай: для яго заключэння неабходна сустрэчнае волевыяўленне двух бакоў — дарыцеля і таго, каму дорыцца. Галоўная рыса гэтага натарыяльнага дзеяння — яго бязвыплатнасць і безумоўнасць. Заключэнне дагавора дарэння з умовамі і агаворкамі не дапускаецца. У адпаведнасці з гэтым дагаворам права ўласнасці на дарымую маёмасць поўнасцю пераходзіць да таго, каму гэта падорана. Прычым, не пасля смерці дарыцеля, як лічаць многія, а адразу: з моманту заключэння дагавора і рэгістрацыі яго ў бюро тэхнічнай інвентарызацыі. Гэта азначае, што дарыцель пасля заключэння адпаведнага дагавору ўжо не ўласнік гэтай маёмасці і новы гаспадар можа рабіць з ёю, што паліча патрэбным: прадаць, падарыць, памяняць і г.д. У сувязі з гэтым часта ўзнікаюць канфліктныя сітуацыі, і тады грамадзяне звяртаюцца ў натарыяльную кантору з просьбай вярнуць усё назад. Аднак гэта немагчыма. Як для заключэння дагавору дарэння патрэбна волевыяўленне двух бакоў, так і для яго скасавання таксама. Калі ж той, каму маёмасць падорана, не жадае развітвацца з ёй добраахвотна, вырашэнне канфлікта перадаецца ў суд.

Гэта неабходна ўлічваць састарэлым грамадзянам, якія часта дораць сваю маёмасць і домаўладанні родным і блізкім. Варта адзначыць, што пасля заключэння дагавору дарэння і пераходу маёмасці да новага ўладальніка, дарыцель пазбаўляецца ўсіх ільгот па аплаце за святло, газ, ваду, камунальныя паслугі, а таксама аплату падаткаў на зямлю і нерухомасць. Гэта таксама становіцца прычынай канфліктаў.

Для засведчання дагавора дарэння неабходны наступныя дакументы: прававызначаючыя (якія пацвярджаюць права ўласнасці дарыцеля: дагавор забудовы, пасведчанне аб праве на спадчыну, рэгістрацыйнае пасведчанне і г.д.); даведка БТІ (сапраўдная на працягу 30 дзён з моманту выдачы); даведка аб пражываючых, калі размова ідзе аб дарэнні домаўладання; даведка аб прававым рэжыме зямельнага ўчастка каля дома; згода мужа ці жонкі, калі дарымае домаўладанне з'яўляецца сумесна нажытай маёмасцю ці дакумент, пацвярджаючы адсутнасць аднаго з супругаў (пасведчанне аб смерці ці скасаванні шлюбу); квіток аб аплаце дзяржпошліны.

Калі ў дарымым домаўладанні прапісаны і пражываюць непаўналетнія дзеці, то неабходны дазвол органа апекі для таго, каб не было ўціску іх правоў. Таксама трэба мець на ўвазе, што, калі ў дарымым домаўладанні прапісаны іншыя дарослыя асобы, то неабходна і іх згода. Для жылых памяшканняў, пабудаваных з прыцягненнем ільготных крэдытаў, Указам Прэзідэнта РБ ад 14 красавіка 2000 года ўстаноўлены шэраг абмежаванняў. Дарэнне такіх памяшканняў да поўнага пагашэння крэдыту і на працягу 3 гадоў з дня яго пагашэння ажыццяўляецца толькі ў выключных выпадках (пераезд у іншую мясцовасць, скасаванне шлюбу, смерць уласніка жылля і інш.) з дазволу раённага, гарадскога выканаўчага органа, а да пагашэння льготнага крэдыту — таксама са згоды ААБ "Беларусбанк" згодна заканаўства.

Уся маёмасць, якая была набыта на падставе пасведчання аб праве на спадчыну па завяшчанню, а таксама на падставе дарэння з'яўляецца асабістай маёмасцю і не належыць падзелу пасля скасавання шлюбу або ў іншых выпадках.

У распарадку работы нашай натарыяльнай канторы адбыліся пэўныя змены: згодна загаду начальніка ўпраўлення юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама, выхаднымі днямі з'яўляюцца субота і нядзеля.

**Таццяна СУРЫНОВІЧ,**
**старшы дзяржаўны натарыус.**

# ПРОГРАММА ТЕЛЕВИДЕНИЯ

### ПЯТНИЦА, 14 июля

**БТ**

**6.30, 7.10** Доброе утро, Беларусь! **7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.45** Новости. **8.10** Док. экран. **8.40** Потребительская корзина. **9.10** "Поем с оркестром". **10.00** Мультфильм. **10.40** Телебарометр. **11.10** "Все мои дети". Телесериал. **11.55** "Премьер-парад". **12.20** Сделано в Беларуси. **12.35** Усадьба. **13.15** "Красная Шапочка". Худ. фильм. 2-я серия. **15.10** "Таинственный мир Алекс Мак-2". **15.35** Мультфильм. **15.45** Регион. **16.10** "Риск-версия". **16.40** Телебарометр. **17.15** Марсово поле. **17.35** Телеочерк к 100-летию со дня рождения писателя В.Дубовки. **18.00** Видеофильм. **18.20** Сериал "Сити". **18.40** МСН. **19.20** "Москва — Минск". **19.50** "Все мои дети". Телесериал. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.35** Событие. **21.50** Мелодрама "Репортаж". **23.20** Бездельник. **23.55** Криминальная хроника.

**ОРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.20** Новости. **8.20** "Вавилонская башня". Сериал. **9.20** А.Шуршанова в программе "Женские истории". **9.50** Клуб "Белый попугай". **10.30** Сериал "Лето наших надежд". **13.30** "Вместе". **14.20** Мультазбука. **14.50** КВН-2000. **17.30** Джентльмен-шоу. **17.55** Человек и закон. **18.40** Поле чудес. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** Детектив "Мужчина в коричневом костюме". **22.30** Песня года. **23.35** Триллер "Настоящие американцы".

**"РОССИЯ"**

**7.00, 8.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.20** Телеспецназ. **7.35** Семейные новости. **8.35** "Ну, погоди!" **8.50** "Москва — Минск". **9.15** "Цыганка". **10.05** "Санта-Барбара". **16.30** "Сто к одному". **17.20** "Королева Марго". **18.25** "Городок". **19.45** Боевик "Телохранитель". **21.35** Дежурная часть. **22.35** Триллер "Звонок в преисподнюю". **0.20** Рок-фестиваль "Крылья".

**"КУЛЬТУРА"**

**11.30, 13.30** Новости культуры. **10.35** Короткометражный худ. фильм. **11.40** "Иванов катер". Худ. фильм. **13.15** "Николай Анненков читает Державина". **13.45** "Жил-был Хомяк". **14.15** "Окно". В.Шендерович. **14.40** Телеэнциклопедия. **15.00** Новости. **15.10** Мультфильмы. **15.40** "Берлин — арена мира". Док. фильм.

**"МОГИЛЕВ-1"**

**6.30, 7.10** "Ранехонько!" **7.00** "Навіны раніцы". **8.05** "Саманта". Телесериал. **8.50** Мультсериал. **9.15** "Зайчик". Комедия. **16.30** "Из жизни женщин". **17.00** "За гранью возможного". **17.35** Мультфильмы. **17.55, 20.05** "Праздник в Вашем доме". **19.20** Телемагазин. **19.30** Пунктир. **21.00** "Только ты". Телесериал. **21.45** Астро-дайджест. **21.50** Рейтинг-фильм.

### СУББОТА, 15 июля

**БТ**

**7.00** Доброе утро, Беларусь! **8.05** Сущность. **8.30** Усадьба. **9.00, 15.00, 19.00** Новости. **9.10** Потребительская корзина. **9.25** "Сегодня с вами..." **9.50** "Все нормально, мама!" **10.20** "Одиссея команды Кухто". **10.50** Компьютерный полигон. **11.10** Вершина мира. **11.35** Столица. **12.05** Сельчане. **12.30** Око. **12.50** Бон тон. **13.23** "На гребне волны". **14.05** МСН. **14.20** Сделано в Беларуси. **14.35** Познай себя. **15.15** Олимп. **15.45** Международный кинофестиваль "Золотой Витязь-2000". **16.20** Ток-шоу "Будни". **17.05** "Служу театру". **17.35** Земляки. **18.35** Из достоверных источников. **19.20** КВН. **20.45** Премьера песни. **21.00** Панорама. **21.45** "Христофор". **22.05** Комедия "Близнецы". **23.25** Видимо-невидимо.

**ОРТ**

**7.00, 9.00, 14.00, 17.00** Новости. **7.10** Слово пастыря. **7.25** "Все путешествия команды Кусто". **8.15** Играй, гармонь любимая! **8.45** "Ералаш". **9.10** Смак. **9.30** Док.детектив. "Берлинское противостояние". **10.00** "С легким паром!" **10.35** Утренняя почта. **11.05** Худ. фильм "Застава в горах". **13.15** В мире животных. **14.10** Фильм "Одиссея капитана Блада". 1-я серия. **15.20** Седьмое чувство. **16.05** Угадайка. **17.15** Л.Соколова в программе "Женские истории". **17.45** "Ералаш". **18.00** В.Леонтьев в концертной программе "Фотограф сновидений". **20.00** Авторская программа Сергея Доренко. **20.55** Комедия "Опекун". **22.35** Драма "...И правосудие для всех".

**"РОССИЯ"**

**7.00** Мультфильм. **7.10** "Меридиан". Фильм для детей. **8.30** Почта РТР. **9.00** Доброе утро, страна. **9.50** "Сто к одному". **10.35** Сам себе режиссер. **11.05** "Друзья-II". Сериал. **11.35** Золотой ключ. **12.00, 19.00** Вести. **12.20** "К-2" представляет: Памяти Григория Горина. **13.15** Комедия "Верные друзья". **15.05** Мультсериал. **15.15** Планета Земля. **16.10** "Вечера в Политехническом". Юрий Шевчук. **17.05** Моя семья. **18.05** "Два рояля". **19.45** "Аншлаг" и К⁰. **20.50** Худ. фильм "Брат". **22.45** Комедия "Так держать, Эммануэль!" **0.20** Чемпионат мира по автогонкам в классе "Формула-1".

**"КУЛЬТУРА"**

**9.05** "Аистенок". **9.30** "Российский курьер". **10.10** "Зачем человеку крылья". Худ. фильм. **11.35** Мультфильм. **12.35** "Графоман". **13.00** Рассказы старого сплетника. "Встреча с другом". **13.30** Новости культуры. **13.45** "Евгения Гранде". Худ. фильм.

**"МОГИЛЕВ-1"**

**15.00** "Телеграмма". Фильм-детям. **16.40, 18.40** "Праздник в Вашем доме". **17.40** "Эко-Пойнт". Телесериал. **19.40** Телемагазин. **19.50** "Два придурка в Голливуде". Комедия. **21.15** Видеодром. **21.35** Драма "Игла". **22.55** Астро-дайджест. **23.00** "Первичное зло". Триллер.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 16 июля

**БТ**

**7.00** Доброе утро, Беларусь! **8.00** Мультсериал. **8.30** Здоровье. **9.00, 15.00** Новости. **9.10** Потребительская корзина. **9.25** Мультиклуб. **9.55** Туробъектив. **10.15** "Все нормально, мама!" **10.45** "Премьер-парад". **11.10** Арсенал. **11.35** Зорная ростань. **12.05** "На волне взаимопонимания". **12.50** Док. сериал "Сокровенные люди". **13.05** Муз. видеофильм. **13.40** "На гребне волны". **14.20** МСН. **14.35** "Сегодня с вами..." **15.10** Наши песни. **15.40** Теленавигатор. **16.00** Банка комиксов. **16.25** "Мечта джентльмена". Худ. фильм. **19.00** "Судьба человека". **19.30** Стадион. **20.00** Резонанс. **20.45** Ток-шоу "Карамболь". **21.20** Боевик "Разборка в Бронксе". **22.45** Суперобраз XXI века. **23.15** Столичный хит. **23.55** Авто-парк. **0.05** Футбол. Чемпионат Республики Беларусь. "Динамо" (Минск) — "Коммунальник" (Слоним). 2-й тайм.

**ОРТ**

**7.00, 9.00, 14.00, 17.00** Новости. **7.10** Служу России! **7.40** "Диснейклуб". **8.10** Утренняя звезда. **9.10** "Непутевые заметки". **9.30** Пока все дома. **10.05** "Альф". **10.35** Здоровье. **11.05** Худ. фильм "Какие наши годы". **13.00** Клуб путешественников. **13.40** История одного шедевра. **14.10** "Одиссея капитана Блада". 2-я серия. **15.30** "Дисней-клуб": "101 далматинец". **16.00** "Дисней-клуб": "Новые приключения Винни-Пуха". **16.25** А.Маресьев в программе "Жизнь замечательных друзей". **17.15** Смехопанорама. **17.55** "Ералаш". **18.15** Комедия "Московские каникулы". **20.00** Время. **21.00** Триллер "Ход королевой". **23.05** Время футбола.

**"РОССИЯ"**

**7.00** Мультфильм. **7.20** Папа, мама, я — спортивная семья. **7.55** Служу Отечеству! **8.20** Устами младенца. **8.50** Доброе утро, страна. **9.30** "Аншлаг" и К⁰. **10.30** "Городок". **11.00** Русское лото. **11.40** Мультфильмы. **12.00** Вести. **12.20** Комедия "Девушка с гитарой". **14.00** Диалоги о животных. **14.55** Чемпионат мира по автогонкам в классе "Формула-1". Гран-при Австрии. **17.00** "Международная панорама". **17.30** Кинокомедия "Любовь немолодого человека". **19.00** Зеркало. **20.00** Комедия "Пистолет с глушителем". **21.40** Вестерн "Неистовый Рэйнджер Вайтт Эрп".

**"КУЛЬТУРА"**

**9.05** "Аистенок". **9.30** "Волшебная лапма Алладина". Худ. фильм. **10.50** Мой цирк. **11.15** Экспедиция "Чиж". **11.45** "Консилиум". **12.10** "Под сенью дружных муз". **12.30** Док. фильмы. **13.30** Новости культуры. **13.45** "Пьер и Жан". Худ. фильм.

**"МОГИЛЕВ-1"**

**15.00** "Могилевщина православная". **15.25** Мультсериал. **16.10** Фильм-детям "Варвара-краса, длинная коса". **17.30** "Встреча с..." М.Хлебникова. **18.20** "Эко-Пойнт". Телесериал. **19.05** Телемагазин. **19.15** "Там-тарарам, или Бухты-барахты". Комедия. **20.25** Астро-дайджест. **20.30** "Однажды вечером". **21.15** "Оцеола". Приключения. **22.55** "Встреча с...". Группа "Отпетые мошенники".

ПОЗДРАВЛЯЕМ!



**г. п. Кировск,
ул. Старосельская, 9,
СНЕЖАНЕ
ВАСИЛЬЕВНЕ
МЕШИК**

**Дорогая и любимая наша жена, мамочка, дочка, сестра и тетя!**

***Прими, родная, наилучшие пожелания с днем рождения.***

*Милая, родная,
как тебя мы любим,
Руки твои нежные,
добрые глаза,
С нежностью сегодня
мы тебя целуем,
Ведь словами это
выразить нельзя.
Время нашей жизни
календарь листает,
Снова за закатом
следует рассвет,
Пусть же этот праздник
вновь тебе прибавит
Много добрых, милых
и счастливых лет.*

**Муж, дети, мама, братья с семьями.**

**д. Глубоковичи,
АНЖЕЛЕ
ВЛАДИМИРОВНЕ
ЯРМОЛЕНКО**

**Дорогая Анжела!**

***Поздравляем тебя с днем рождения.***

*Будь самой веселой,
будь самой счастливой,
Хорошей и нежной
и самой красивой,
Простой, обаятельной,
неповторимой,
И доброй, и строгой,
и слабой, и сильной.
Пусть беды уходят
с дороги твоей,
Пусть будет побольше
хороших друзей,
Пусть будет все то,
что ты хочешь сама,
Любви тебе, веры,
надежды, добра.*

**Сергей, Костя.**



## КАКОГО ЦВЕТА ДЕТСТВО?

***Детство на солнышко
очень похоже
И с одуванчиком
схожее тоже,
Значит, у детства —
цвет золотистый,
Яркий, веселый
и очень лучистый.
Детство, как травка
в саду зеленеет,
Как васильки,
его глазки синеют.
Детство, как
пёстрое, тёплое лето,
Всеми цветами
оно обогрето.***

**Виктория СОТНИКОВА.**

## У ІНТАРЭСАХ ДЗЯЦЕЙ

Пры саюзе маладзёжных і дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў "Беларускі нацыянальны маладзёжны савет" створана рабочая каманда для рэалізацыі праекта "Глабальны рух у інтарэсах дзяцей". У яе ўвайшлі прадстаўнікі пяці найбольш уплывовых рэспубліканскіх дзіцячых арганізацый. Праект будзе ажыццяўляцца пры падтрымцы прадстаўніцтва Дзіцячага фонду ААН у Рэспубліцы Беларусь. Мэта яго — уключыць Беларусь у працэс глабальнага руху ў інтарэсах дзяцей. А саміх дзяцей далучыць да актыўнай дзейнасці па рэалізацыі сваіх правоў і інтарэсаў, а таксама палажэнняў закону "Аб правах дзіцяці", прынятага ў нашай краіне.

*Рэха купальскага свята*

# АД ЗМЯРКАННЯ ДА СВІТАНКУ

Не далі і сёлета культработнікі кіраўчанам сумаваць у купальскую ноч ці "бязмэтна бадзяцца" па райцэнтру: зноў на беразе Кіраўскага возера было наладжана святочнае прадстаўленне. Хаця мэтазгоднасць правядзення Купалля ў такім выглядзе штогод выклікае шырокі спектр думак: хапае галасоў і "за", і "супраць", усё ж меркаванне, што праводзіць Купалле з песнямі, музыкай, старажытнымі абрадамі лепей, чым вырываць лаўкі ці слупы, ламаць платы, загароджваць дарогі, як гэта рабілася раней нічым не захопленай моладдзю.

Што датычыцца культурнай праграмы Купальскага свята, тут трэба аддаць належнае культработнікам, яны з году ў год, нягледзячы на капрызы надвор'я, цікава ўпрыгожваюць паляну, імправізаваную сцэну, імкнуцца разнастаіць сцэнарыі, робячы старажытнае свята з ухілам на сучаснасць, каб прадстаўленне захапіла прысутных, было забаўляльным, відовочным. Не забываюцца і абавязковыя прыкметы Купалля: папараць-кветка, вянкі, касцёр, гульні, песні.

Сёлета гледачы ўбачылі на сцэне скамарохаў, цыган, ляснога цара, русалак, абавязковых прадстаўнікоў "нячыстай сілы", а побач з традыцыйнымі героямі — Зіну і Ваню, вядомых персанажаў песні Уладзіміра Высоцкага (памятаеце: "Ой, Вань, гляди какие клоуны"), Астапа Бендзера і Шуру Балаганава, Папандопула, героя кінафільма "Вяселле ў Малінаўцы" і іншых. Яны забаўлялі прысутных, праводзілі з імі гульні, конкурсы прыпевак, гарманістаў, "Міс і Містэр Купалле, пляценне вянкоў і г.д.

Умела рабілі ўсё гэта культработнікі Наталля Лукашэнка, Артур Міронаў, Ірына Каўрыжкіна, Ніна Катлінская, Таццяна Лагойка, Вольга Фядотава, Аляксандр Калмыкоў, работнік кінавідэапрадпрыемства Алег Радчанка, а таксама энтузіясты культуры Андрэй Масюкевіч, Аляксандр Іваніцкі.

Асобныя часткі прадстаўлення перамяжоўваліся танцавальнай праграмай пад музыку і песні Аляксандра Хадакова, Вольгі Бендзер.




Але чым далей працягвалася купальская ночка, тым усё больш хістаючыхся постацей становілася ў раёне сцэны і ў наваколлі. Бо на паляну адзначыць Купалле, па невядома кім устаноўленай традыцыі, народ зноў збіраўся з сумкамі, пакетамі, змесціва якіх удакладняць не будзем — кожны з чытачоў гэтых радкоў яго ведае. Ну што ж, традыцыя дык трыдыцыя, пікнічок невялікі — справа нядрэнная. Але,. на жаль, у некаторых кампаніях гэтыя пікнічкі ператвараюцца ў бязмерныя выпіўкі, і тады, як у той байцы, "под каждым листом — и стол, и дом". Ну стол яшчэ можна зразумець, але некаторыя з-за гэтага імправізаванага стала ўстаць не могуць, і становіцца ліст ці куст сапраўды домам да світанку, калі вартавыя парадку не падбяруць і не даставяць "куды трэба", ці "хуткая дапамога" не дапаможа. Былі такія нюансы і на гэты раз. Былі і хістаючыеся з боку ў бок асобы абодвух палоў, не даючыя спакою тым, хто аказваўся побач, было пару маладых мам мякка кажучы нецвярозых з каляскамі і цыгарэтамі ў зубах, былі бясконцыя надакучванні культработнікам і штурм сцэны з заказамі на песні і аб'явы — словам, як заўжды, публіка раздзялілася "па інтарэсах". На жаль толькі, многім з тых, хто прыйшоў сюды з надзеяй адпачыць культурна, атрымаць задавальненне ад купальскага прадстаўлення, сапсавалі настрой вышэй адзначаныя малюнкі і факты.

А калі світанак пачаў уступаць у свае правы, паляна ля возера нагадвала вялізны сметнік: вакол валяліся і бутэлькі, і папера, і пакеты... Ну хоць рэшткі багатых і не вельмі "трапез" можна было прыхапіць з сабой?! Калі ж мы, нарэшце, будзем рабіць так, каб з поўным правам маглі "людзьмі звацца", каб і праца, і адпачынак — у радасць, радасць сапраўдную, а не падагрэтую саракаградуснай? І вельмі балюча ад таго, што ў купальскім натоўпе больш за ўсё хістаючыхся і не вылучаючыхся дастойнымі паводзінамі асоб было з боку моладзі...

**Наталля ХАДАКОВА.**

## ВЕСЕЛА І ПАЗНАВАЛЬНА

У планы мерапрыемстваў, праводзімых раённым Домам культуры, за апошнія гады трывала ўвайшло дзіцячае Купалле. Мяркуючы па вялікай колькасці хлопчыкаў і дзяўчынак, якія штогод прыходзяць на свята ў парк ля РДК, і многія разам з бацькамі, Купалле ім падабаецца. Пры падрыхтоўцы сцэнарыяў стараемся ўлічыць пазнавальную і забаўляльную функцыі мерапрыемства. Па-першае, ставім сваёй мэтай далучыць рабят ад старажытнага беларускага абрада, пазнаёміць з героямі казак і паданняў, па другое — стараемся арганізаваць усё так, каб дзеці добра і весела адпачылі.

Сёлета на дзіцячае Купалле зноў сабралася шмат дзятвы і дарослых. Размову з імі павялі Несцерка (Артур Міронаў), баба Еўка (аўтар гэтых радкоў), дзед Тумаш (Алег Радчанка). І, безумоўна, цэнтральным персанажам была Купалінка (Вольга Фядотава). Тэатралізаванае прадстаўленне было насычана конкурсамі, гульнямі, розыгрышамі. Рабяты шукалі папараць-кветку, разгадвалі загадкі, спявалі прыпеўкі (дарэчы, у гэтым конкурсе перамагла Маргарыта Пятроўская), выконвалі іншыя заданні.

Зразумела, не абышлося без нячыстай сілы, прадстаўнікі якой жадалі спыніць свята (іх увасобілі ўдзельніцы тэатральнага гуртка РДК Кацярына Пятроўская, Кацярына Харлап, Надзея Жаўлакова). Але, як і належыць у казках, дабро перамагло зло, нават перавыхавала яго. І Баба Яга, і Кікімара, і Лесуніха нават заспявалі разам з рабятамі.

Знайшоўся занятак і для дарослых: яны ўдзельнічалі ў конкурсе "Запляці касічку". Словам, усе засталіся задаволенымі, а пераможцы конкурсаў атрымалі прызы.

**Наталля ЛУКАШЭНКА,
загадчык
дзіцячага аддзела РДК.**

## УДАКЛАДНЕННЕ

**У мінулым нумары "Кіраўца" ў Дошцы гонару залатых медалістаў Дзмітрый Комар — выпускнік Жыліцкай сярэдняй школы.**

## ОТВЕТЫ на чайнворд "Медицинский", опубликованный в №46 за 17 июня г.г.

**1.** Электрокардиограмма. **2.** Афонькина. **3.** Агония. **4.** Язык. **5.** Компресс. **6.** Соловей. **7.** Йод. **8.** Дерматит. **9.** Труп. **10.** Поляков. **11.** Водолечебница. **12.** Акушерство. **13.** Озноб. **14.** Бикс. **15.** Солянкина. **16.** Анализ. **17.** Зуд. **18.** Дворкин. **19.** Нефрит. **20.** Тюбик. **21.** Ковцевич. **22.** Чесотка. **23.** Алкоголик. **24.** Кириченко. **25.** Ортопедия. **26.** Яд. **27.** Дробенкова. **28.** Аммиак. **29.** Катаракта. **30.** Артрит. **31.** Тромб. **32.** Бурван. **33.** Нос. **34.** Степоскоп. **35.** Пискунова. **36.** Абсанс. **37.** Стул. **38.** Латушкина.

## БЕЛАРУСЬ РАЗВІТАЛАСЯ З МІКАЛАЕМ ЯРМОЛЕНКАМ

Гордасцю краіны, гордасцю народа, яркай асобай застанецца назаўсёды для беларускай зямлі вядомы акцёр тэатра і кіно, народны артыст СССР Мікалай Ярмоленка. 4 ліпеня сотні людзей прыйшлі развітацца з ім у Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы, дзе больш як сорак гадоў тварыў гэты майстар. Ён пайшоў з жыцця 30 чэрвеня на 75-ым годзе жыцця. Ушанаваць памяць артыста прыйшоў і Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.

На паніхідзе калегі і сябры Мікалая Ярмоленкі ўспаміналі аб ім як аб чалавеку прынцыповым і адказным. Не выпадкова Мікалай Ярмоленка шмат гадоў узначальваў Беларускі саюз тэатральных дзеячаў і да апошняга часу кіраваў канфедэрацыяй творчых саюзаў і культурных фондаў рэспублікі, з'яўляўся членам Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу, кіраваў Фондам Прэзідэнта краіны па падтрымцы таленавітай моладзі.

Мікалай Ярмоленка быў пахаваны на могілках па маскоўскай шашы ў Мінску.

**БелТА.**



***Кіраўская дзяржаўная перасовачная механізаваная калона №255 перайменоўваецца ў "Будаўнічае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства "Кіраўская перасовачная механізаваная калона №255", скарочана БРУП "Кіраўская ПМК-255".***

**Адміністрацыя.**



**Калектыў старшых медсясцёр райбальніцы** выказвае глыбокае спачуванне старшаму фельчару-лабаранту **Святлане Васільеўне АКУШЭВІЧ і яе СЯМ'І** з выпадку смерці **БАЦЬКІ, ЦЕСЦЯ, ДЗЯДУЛІ.**

**Калектыў работнікаў дзіцячага садка в.Добасна** выказвае глыбокае спачуванне **Наталлі Іванаўне ХВІСЬКО і яе СЯМ'І** з выпадку напаткаўшага іх вялікага гора — смерці **МАЦІ, ЦЕШЧЫ, БАБУЛІ.**

**Калектыў настаўнікаў, тэхработнікаў Добасненскай СШ** выказвае глыбокае спачуванне **Тамаре Дзмітрыеўне ДРАЗДОВАЙ і яе СЯМ'І** з выпадку смерці **МАЦІ, СВЯКРУХІ, БАБУЛІ.**

**Рэдактар Пятро СУРЫНОВІЧ**

*Заснавальнікі:
Кіраўскі раённы выканаўчы камітэт,
Кіраўскі раённы Савет дэпутатаў,
рэдакцыя газеты "Кіравец"*

Рэгістрацыйны № 285.
Падпісана да друку ў 17 гадзін.

Наш адрас: *Рэспубліка Беларусь, 213940, Магілёўская вобласць, г. п. Кіраўск, вул. Пушкінская, 15.*
Тэлефоны: *рэдактар 21-2-63, намеснік рэдактара, адказны сакратар, аддзел грамадска-палітычнага жыцця 21-5-69, аддзелы аграпрамысловага комплексу і экалогіі, пісьмаў і сацыяльных праблем 21-5-35, бухгалтэрыя 21-4-76, спецыялісты настольна-выдавецкай сістэмы 21-3-93.*

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і сапраўднасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

*Аб'ём — адзін друкаваны аркуш
Газета выходзіць у сераду і суботу
на беларускай мове.*

*Індэкс газеты - 64077. Заказ 3540.
Бабруйская ўзбуйнёная друкарня
імя Непагодзіна, вул. Сацыялістычная,103.
Друк афсетны. Тыраж ліпеня 2777.*